

*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ*

# НАША СЛОВА




Газета выходзіць з сакавіка 1990 года № 6 (593) 12 ЛЮТАГА 2003 г.

## Нацыянальны ўніверсітэт: ЯШЧЭ КРОК ДА МЭТЫ

**Размовы пра неабходнасць стварэння Нацыянальнага ўніверсітэта вядуцца ўжо даўно і на розных узроўнях. На сённяшні дзень цалкам беларускамоўнай адукацыі няма ні ў адной вышэйшай навучальнай установе Беларусі. Выпускнікі беларускамоўных школ вымушаны працягваць адукацыю на рускай ці, у лепшым выпадку, на дзвюх мовах. І гэта пры тым, што вучыцца па-беларуску ахвотных хапае. Пра гэта сведчаць і 55 тысяч подпісаў, якія Таварыства беларускай мовы сабрала ў грамадзян у падтрымку Нацыянальнага ўніверсітэта.**

У снежні старшыня ТБМ Алег Трусаў накіраваў кіраўніку Адміністрацыі Прэзідэнта Уралу Латыпаву ліст з просьбай аб сустрэчы для абмеркавання гэтага надзённага пытання. 28 студзеня сустрэча з прадстаўнікамі Адміністрацыі Прэзідэнта адбылася.

- Вельмі прыемна ўразіла тое, што людзі, з якімі вялася гутарка, цудоўна валодаюць беларускай мовай і разумеюць неабходнасць стварэння ў Беларусі замкнутага ланцуга беларускамоўнай адукацыі - ад дзіцячага садка да аспірантуры, - гаворыць Алег Анатольевіч. - Мы абмеркавалі розныя варункі сравы і прыйшлі да высновы, што фінансавыя выдаткі будуць не вельмі вялікімі. Тут павінна быць рашэнне хутчэй палітычнае.

Спадар Трусаў лічыць, што Нацыянальны універсітэт не павінен мець вялікай колькасці студэнтаў: самае большае - 5-7 тысяч. Ва універсітэце будуць рыхтавацца кадры нацыянальнай эліты, ён павінен стаць своеасаблівай навуковай лабараторыяй для іншых навучальных устаноў. Ва універсітэце можа быць некалькі класічных факультэтаў: права, псіхалогіі, філасофіі і абавязкова - медыцынскі. "Адно з самых галоўных патрабаванняў - каб ва універсітэце беларуская мова гучала ўсюды - і ў буфеце, і ў гардэробе, каб на ёй вялося справаводства і працавала бухгалтэрыя. Толькі тады ён будзе па-сапраўднаму нацыянальным", - зазначыў сп. Трусаў.

На сустрэчы ім былі выказаны і арганізацыйныя прапановы. Старшыня ТБМ прапанаваў стварыць універсітэт на частковай базе БДУ, у якога гэта навучальная ўстанова, пакуль стане на ногі, можа быць філіялам, або пераўтварыць у Нацыянальны універсітэт Акадэмію кіравання пры прэзідэнце. "Гэта пацягне найменшыя фінансавыя выдаткі. Але гэта толькі прапановы", - зазначыў сп. Трусаў.

Алег Трусаў спадзяецца на тое, што сустрэча такога ўзроўню была не апошняй, што ўжо сёлета будуць зроблены далейшыя крокі да станоўчага вырашэння гэтага пытання.

*Алена Ляўковіч,*
*"Звязда".*

### Адбылася абласная канферэнцыя

2 лютага 2003 г. у сядзібе Таварыства беларускай мовы адбылася справаздачна-выбарчая канферэнцыя Менскай абласной арганізацыі ТБМ. Прадстаўнікі з Маладэчна, Мар'інай Горкі, Смілавічаў, Заслаўя, Салігорска і іншых рэгіёнаў Меншчыны распавялі пра свае здзейненыя справы, падзяліліся задумамі. Ва ўсіх выступах гучала шчырая занепакоенасць станам беларускай мовы, найперш у сістэме адукацыі, асабліва школьнай. Аднак, сябры Таварыства не збіраюцца апускаць рукі. У іх шмат цудоўных ідэй, якія абавязкова будуць рэалізаваны.

Працу арганізацыі за 2002 г. прызналі аднагалосна як здавальняльную. Юры Малаш наноў абраны старшынём абласной арганізацыі, Г.У. Банкевіч - намеснікам старшыні. Сябры Рады - Т. Р. Трубач, А.Борым, Г.І. Мароз, С.М. Палівода, Б. І. Муха. У склад рэвізійнай камісіі ўвайшлі: У.М. Румкоўскі, Т.У. Анкуд, Аксючыц.

Дэлегаты атрымалі цікавыя кнігі для гарадскіх і школьных бібліятэк Меншчыны.

*Наш кар.*

## Сустрэчы ў Івацэвічах

30 студзеня Івацэвічы наведалі вядомая беларуская пісьменніца Вольга Іпатава і старшыня ТБМ, гісторык і археолаг Алег Трусаў.

Першая сустрэча адбылася ў памяшканні ліцэя, дзе навучаюцца лепшыя дзеці з горада і раёна пасля 8 класа.

Зала была перапоўненая навучэнцамі ліцэя і выкладчыкамі. Былі госці і з іншых навучальных устаноў горада. Спачатку ліцэісты (будучыя філолагі) дэкламавалі вершы Вольгі Іпатавай, а потым іх, а таксама вершаваныя пераклады з іншых моваў чытала аўтарка. Потым была прэзентацыя яе кнігі "Альгердава дзіда", пра якую гаварыў Алег Трусаў, а таксама сама аўтарка. Было шмат пытанняў, кветак, аўтографаў і фотаздымкаў на памяць. Варта адзначыць, што, негледзячы на рускую мову навучання, сустрэча праходзіла на роднай мове, выкладчыкі, навучэнцы і дырэктар ліцэя добра гаварылі па-беларуску.

У бібліятэку ТБМ ліцэісты падаравалі свой альманах "На паэтычнай хвалі" і абяцалі пісаць свае допісы ў "Наша слова".

Другая сустрэча адбылася ў памяшканні раённай бібліятэкі, дзе сышліся аматары гістарычнай прозы, мясцовыя краязнаўцы, журналісты, настаўнікі і бібліятэкары. Прайшло абмеркаванне кнігі Вольгі Іпатавай, былі раздадзеныя апошнія нумары "Новага часу" і "Нашага слова".

*Наш кар.*

## 18 лютага -- 110 гадоў з дня нараджэння
# Максіма Гарэцкага
## (1893-1939),
### беларускага пісьменніка, літаратуразнаўца, крытыка, фалькларыста

*Калі за адраджэнне мовы, чытай, спадарства, "Наша слова"!*

*Шаноўнае спадарства, сябры ТБМ! Пачалася падпіска на газету ТБМ "Наша слова" на другі квартал 2003 года.*

*На жаль па гораду Менску і ўсіх абласцях акрамя Берасцейскай падпіска на нашую газету ў першым квартале значна ўпала. Мы шчыра дзякуем тым арганізацыям, якія захавалі ўзровень падпіскі і павысілі яго. Разам з тым мы просім кіраўнікоў арганізацый тых гарадоў і раёнаў, дзе падпіска знізілася прыняць адпаведныя меры для выпраўлення становішча. Мы просім патлумачыць нашым сябрам, што менавіта на грашах, атрыманых ад падпіскі, трымаецца нашая газета. У нас няма багатых спонсараў, таму лёс газеты ў руках нашых чытачоў.*

*Мы спадзяёмся на вашую падтрымку, сябры.*

Ф. СП - 1

Міністэрства сувязі Рэспублікі Беларусь

**АБАНЕМЕНТ** на газету/часопіс **63865** (індэкс выдання)

***НАША СЛОВА*** (назва выдання)

На 2003 год па месяцах:

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | X | X | X | | | | | | |

Куды (паштовы індэкс) (адрас)

Каму (прозвішча, ініцыялы)

**ДАСТАВАЧНАЯ КАРТАЧКА**

ПВ | месца | літар — на газету/часопіс **63865** (індэкс выдання)

***НАША СЛОВА*** (назва выдання)

| Кошт | падпіскі / пераадрасоўкі | 1374 руб. / руб. | Колькасць камплектаў | 1 |
|---|---|---|---|---|

На2003 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | X | X | X | | | | | | |

Куды (паштовы індэкс) (адрас)

Каму (прозвішча, ініцыялы)




## Ахвяраванні на ТБМ

1. Лепешаў Іван, Горадня - 15.000 р.
2. Толкач Галіна, Горадня - 10.000 р.
3. Згрундо Ірына, Жодзіна - 5.000 р.
4. Дывында Пётр, г.л. Свіслач - 10.000 р.
5. Васіль Петруковіч - 9.000 р.
6. Руткоўскія, Менск - 5.000 р.
7. Палсцюк В. - 5000р.
8. Шкірманкоў, Слаўгарад - 5.000 р.
9. Авярьян Дзеружынскі - 800 р.
10. Гаравы Леанід, Віцебская вобл. - 5.000 р.
11. Міхась Тычына, Слуцк - 2.000 р.
12. Сяргей Панізьнік - 1.000 р.
13. Судзілоўская Людміла, Гомель - 5.000 р.

***Філалагічны факультэт БДУ, кафедра гісторыі белар. мовы***

1. Сяргей Запрудскі - 5.000 р.
2. Красноў Віктар - 3.000 р.
3. Прыгодзіч Мікалай - 5.000 р.
4. Кулеш Ганна -- 5.000 р.
5. Гапоненка Ірына - 5.000 р.

Просім Вашыя ахвяраванні дасылаць на адрас: вул. Румянцава 13, г. Менск, 220005, альбо пералічыць на разліковы рахунак ТБМ № 3015212330014 у Менскай гардырэкцыі ААТ Белбізнесбанка код 764 праз любое аддзяленне ашчадбанка Беларусбанк (камісійны збор пры гэтым не бярэцца).





# Справаздачны даклад за 2002 год Старшыні ГА "ТБМ імя Ф. Скарыны" Алега Трусава на паседжанні Рады 26 студзеня 2003 г.

*(Заканчэнне. Пачатак у папярэднім нумары.)*

Шырока адзначыла Таварыства 60-ыя ўгодкі Міхася Ткачова. У вялікай зале Дома літаратара сумесна з Саюзам пісьменнікаў была праведзена вечарына памяці вучонага, палітыка, грамадскага дзеяча. У ёй былі выкарыстаны аўдыёзапісы выступлення Міхася Ткачова, успамінамі дзяліліся Вольга Іпатава, Станіслаў Шушкевіч, Аляксей Кароль, Алег Трусаў, Аляксей Марачкін, Вінцук Вячорка і іншыя. Археолаг Лявон Калядзінскі ілюстраваў сваё выступленне слайдамі з археалагічных раскопаў. Удзел браў фальклорны калектыў "Тутэйшая шляхта". Вечарына была занятая на відэастужку, зроблены відэафільм. Акрамя гэтага былі выдадзены кішэнны каляндарык з выявай Міхася Ткачова на фоне Навагрsuccescкага замка, змешчаны шматлікія публікацыі ў "Нашым слове", "ЛіМе", "Бярозцы" і "Свободных новостях". Сябры Таварыства арганізавалі і правялі вечарыну яго памяці ў Жодзіне, Мсціславе, Лідзе, Горадні, Віцебску – гарадах, з якімі было звязана жыццё Ткачова. Нашы звароты ва ўладныя структуры з просьбай увекавечыць памяць выдатнага сына нашага народа засталіся непачутымі.

Трэці значны юбілей – 120-ыя ўгодкі Уладзіслава Галубка, таксама як і першыя два, быў незаўважаны дзяржаўнымі ўстановамі. Мы звярталіся ў Саюз тэатральных дзеячаў, каб нагадаць пра юбілей і даведацца, што плануецца. Ці будуць адмысловыя спектаклі ў тэатрах сталіцы? Аднак адказу на свой запыт не атрымалі. Годна адзначылі гэты юбілей сябры Баранавіцкай гарадской арганізацыі, землякі Галубка. Яны правялі дзве вялікія вечарыны, аб чым распавялі на старонках "Нашага слова".

Дзякуючы Баранавіцкай радзе быў выдадзены кішэнны каляндарык і плакат з выявай Дамейкі, прысвечаный 200-годдзю нашага славутага земляка. Нашыя сумесныя звароты аб ушанаванні памяці Дамейкі ў наданні яго імя школе ці вуліцы падаліся начальству Баранавічаў няслушнымі. У сядзібе Таварыства ў Менску, прынагодна юбілею, быў праведзены ўрачысты сход грамадскасці, у якім бралі ўдзел знаўцы жыццёвага шляху Ігната Дамейкі – Адам Мальдзіс і Здзіслаў Сіцька. Была прынятая Ўхвала, якую разаслалі ў адпаведныя інстанцыі з прапановай ушанаваць памяць Ігната Дамейкі ў Менску. На гэтую ўхвалу адгукнуўся толькі Менскі гарвыканкам. Мы атрымалі паведамленне, што ў сталіцы будзе вуліца імя Дамейкі. Адзін пункт гэтай Ухвалы адносіўся непасрэдна да Таварыства: "Аказаць дапамогу Карэліцкай раённай бібліятэцы ў папаўненні яе фондаў беларускай мастацкай літаратурай з нагоды 200-годдзя Дамейкі". Мы сабралі і перадалі бібліятэцы 22 кастрычніка некалькі сотняў кніг. Значную колькасць з іх ахвяраваў Адам Мальдзіс.

Да юбілеяў Янкі Купалы і Якуба Коласа таксама былі выраблены кішэнныя каляндарыкі і плакаты з выявамі паэтаў. На масавых мерапрыемствах сябры Таварыства з поспехам распаўсюджвалі гэтыя каляндарыкі. У шэрагу нумароў "Нашага слова" былі змешчаны шматлікія публікацыі. З ініцыятывы спн. Манюк з Навагрудка і пры падтрымцы кіраўніцтва Таварыства абласное раённае свята ў в. Бенін, дзе нейкі час жыў, тварыў і працаваў Янка Купала.

Семінар "Я магу жыць лепей", які праводзіўся па ініцыятыве Вячкі Станкевіча, знайшоў сваё лагічнае завяршэнне ў створаным відэафільме з аднайменнай назвай. У ім зазнятыя заняткі аднаго семінара, якія праводзілі Людміла Дзіцэвіч, Антаніна Хатэнка і Валер Мазынскі.

На працягу года мы адгукаліся на падзеі, што адбываліся ў грамадскім жыцці. Так, нашы лісты ў падтрымку беларускай службы Радыё Палёнія мелі станоўчы вынік. На паседжаннях Сакратарыята былі прынятыя розныя звароты, заклікі, заявы. Назавём некаторыя з іх: "Голас душы павінен гучаць" (супраць закрыцця прамой радыётрансляцыі на беларускай мове службы з Чырвонага касцёла і перадача была зноў аднаўлена), "Спыніць перасклед Саюза беларускіх пісьменнікаў", "БТ-2 павінен стаць нацыянальным каналам", "Вернем экзамен па беларускай літараруры ў школу", "Аб падтрымцы журналістаў газеты "Пагоня", "Аб захаванні рэлігійнай талерантнасці ў Беларусі", "Адновім беларускі музей Івана Луцкевіча" і іншыя.

Віцебская абласная арганізацыя прыняла актыўны ўдзел у правядзенні конкурса "Лепшы рупліўца роднага слова", які праводзіў аблвыканкам. Інфармацыя пра конкурс была змешчана на старонках "Нашага слова".

Дзейнасць Таварыства не абмяжоўваецца рамкамі прынятага намі плана. Жыццё ўносіла свае карэктывы. Значнай падзеяй у жыцці Таварыства стала рэгістрацыя 25 сакавіка газеты "Новы час", першы нумар якой быў выдадзены ў канцы жніўня. А да новага года пабачылі свет пяць нумароў. Газета была разасланая ва ўсе рэгіёны кіраўнікам нашых арганізацый з просьбай аб яе прапагандзе. У выніку гэтага на першы квартал 2003 года на газету падпісалася 346 чалавек (з іх 10 асобнікаў ведамасных). Адзначым, што на "Наша слова" падпісантаў 1308.

Упершыню ў нашай практыцы ў лістападзе – снежні месяцах мы правядзілі акцыю "Беларускую газету – у кожную сям'ю". Па нашай ініцыятыве ў Доме прэсы адбыўся сход галоўных рэдактараў беларускамоўных выданняў, на якім уздымаліся праблемы падпіскі. Панаваў у асноўным скептычны настрой. Толькі "Наша ніва" пагадзілася сумесна з "Новым часам" арганізаваць рэкламу ў метро, што і было зроблена. Акрамя таго, мы надрукавалі 4000 падпісных бланкаў на нашыя газеты, якія рассылалі і раздавалі людзям дзеля падпіскі.

Акрамя запланаванага ў мінулым годзе былі праведзены розныя месячнікі. Найбольш шырокі розгалас атрымаў першы, які праходзіў у верасні месяцы пад назвай "Размаўляем па-беларуску". Гэтаму спрыялі шматлікія публікацыі ў прэсе, актыўнасць сяброў Таварыства, тэлесюжэт на 2-м канале БТ, адмысловая рэклама ў метро і па Менску, выпускі значкоў "Размаўляй са мной па-беларуску". Дзякуючы ўсяму гэтаму нам удалося прыцягнуць да роднага слова ўвагу даволі шырокага кола людзей. Як засведчылі апытанні, 30% грамадзян падтрымлівалі і ўхвалялі гэтую ініцыятыву.

У кастрычніку мы правялі месячнік "Спяваем па-беларуску". Падчас гэтага месячніка мы правялі акцыю перадачы начальнікам беларускіх цягнікоў адмысловай аўдыёкасеты з запісамі беларускіх песень у выкананні вядомых гуртоў. Наша мэта палягала ў тым, каб пасажыры чыгуначнага транспарту мелі магчымасць падчас падарожжа слухаць беларускую песню. Аднак, пасля таго, як перадачы касеты праводзілася з удзелам тэлевізійшчыкаў, начальнікам цягнікоў было забаронена прымаць наш падарунак.

У лістападзе планаваўся месячнік "Танчым беларускае". Меркавалася правесці беларускія дыскатэкі ў шэрагу навучальных устаноў. Аднак гэтыя планы засталіся няздзейсненымі.

Былі наладжаныя кантакты з польскім метадычным цэнтрм Аррупэ, які працуе па праграме павышэння кваліфікацыі настаўнікаў. Галоўнай умовай нашага супрацоўніцтва было правядзенне заняткаў на беларускай мове. Нашы партнёры пагадзіліся на гэта. І ўжо на пачатку гэтага года ў нашай сталіцы паспяхова прайшоў першы семінар на тэму "Інтэгральная мадэль педагогікі".

З нашым удзелам стваралася Кніга спачування і жалобы, размешчаная ў Чырвоным касцёле, падрыхтаваная па гадавіны трагедыі, што напаткала ЗША 11 верасня 2001 г. Мы падрыхтавалі ўступны артыкул да гэтай кнігі, змясцілі публікацыі пра яе ў "Народнай волі", "Новым часе" і "Нашым слове".

Па просьбе Міністэрства адукацыі мы прынялі актыўны ўдзел у распрацоўцы Палажэння аб узорнай гарадской беларускамоўнай школе, а таксама мы даслалі свае прапановы з нагоды конкурсу на новы беларускі гімн. Сябры Таварыства даслалі лісты ў рэдакцыю газеты "Звязда" ў падтрымку публікацыі Лемцюговай па беларускай таманіміцы.

За 2002 год папоўніўся кніжны фонд бібліятэкі ТБМ. Зараз ён складае 1500 адзінак. З іх каля 150 кніг з'яўляюцца рарытэтнымі (пабачылі свет у 1900 – 1930 гг. у Санкт-Пецярбурзе, Вільні, Менску). Каля 220 адзінак з кнігазбору Бібліятэкі маюць дароўныя подпісы і аўтографы ранейшых ды сучасных аўтараў (М. Сяднёва, А. Салаўя, Н. Арсенневай, М. Улашчыка, У. Арлова, С. Алексіевіч, Г. Сагановіча, В. Сёмухі), што надае такім выданням асаблівую культурна-гістарычную значнасць. Адну з найбольш каштоўных частак фонду складаюць выданні беларускай эміграцыі, маладаступныя праз іншыя бібліятэкі Беларусі. У Бібліятэцы вядзецца электронны каталог, які дазваляе шматаспектны пошук літаратуры.

Сярод апошніх каштоўных паступленняў можна назваць такія кнігі, як: "Матэматычная энцыклапедыя", "Беларускія слоўнікі і энцыклапедыі: Бібліяграфія", "Біблія: Кнігі сьвятога пісаньня Старога і Новага запавету", "Дарога праз Курапаты", "Менск незнаёмы: 1920 – 1940" і іншыя. На жаль, трэба канстатаваць, што зараз колькасць новых паступленняў паменшылася.

Бібліятэка ТБМ ажыццяўляе збор і захаванне рознамоўных выданняў, якія паводле свайго зместу закранаюць ўсе аспекты беларусазнаўства. Значную частку кнігазбору бібліятэкі складае таксама мастацкая літаратура – творы беларускіх аўтараў у арыгінале або ў перакладах на іншыя мовы. У верасні 2002 года споўнілася 3 гады ад пачатку дзейнасці Бібліятэкі.

Цягам некалькіх месяцаў мы вялі збор подпісаў супраць засілля рускай мовы на канале СТБ. Сабраныя подпісы дасылаюцца на тэлебачанне. Кіраўнік канала сп. Зімоўскі прапанаваў нам сустрэцца па праблеме беларускай мовы. Гэтая сустрэча пакуль не адбылася, але ўжо цяпер можна хоць калі-небудзь пачуць беларускае слова на гэтым канале.

За справаздачны перыяд была праведзена адна Рада і 20 паседжанняў Сакратарыяту. На кожным з іх, акрамя іншага, мы прымалі ў Таварыства новых сяброў. Усяго за год было прынята 168 чалавек, зарэгістравана 19 суполак. Пасведчанні новага ўзору атрымалі 188 сяброў. На жаль, мы не ведаем, як змяніўся колькасны скдад рэгіянальных арганізацый. Пры канцы года мы атрымалі канкрэтныя звесткі толькі з Магілёўскай вобласці і Горадні, дзе, дарэчы, адбыліся змены ў кіраўніцтве. Старшынём Гарадзенскай гарадской арганізацыі абраны Валер Задаля. А старшынёй Магілёўскай абласной арганізацыі абраная Наталля Лебедзева.




**Каляндарык, выдадзены Мазырскай гарадской радай ТБМ**

Звяртаюся з вялікай просьбай да кіраўнікоў арганізацый – правесці працу па ўпарадкаванні сваіх структур і даслаць звесткі пра колькасны склад кожнай суполкі ў Вашай арганізацыі. Па тых дадзеных, якія захоўваюцца ў сядзібе, Таварыства налічвае каля 6.386 сяброў, у тым ліку па Менску – 1986, Менскай вобласці - 1395, Віцебскай вобласці - 708, Гарадзенскай - 791, Гомельскай - 394, Магілёўскай - 351, Берасцейскай - 381, за межамі Беларусі - 380. На сёння ТБМ – масавая грамадская арганізацыя. Яна мае 60 зарэгістраваных рэгіянальных структур у розных гарадах Беларусі. Акрамя таго, суполкі ТБМ дзейнічаюць у розных вёсках і мястэчках, а таксама ў шэрагу краінаў свету: ЗША, Канадзе, Расіі, Польшчы, Англіі, Украіне, Літве, Латвіі, Эстоніі, Германіі.

Сёння дарэчы ўзгадаць і нашых сталых сяброў-дабрадзеяў, якія падтрымліваюць Таварыства матэрыяльна. Гэта **В. Пятруковіч**, **І. Жытко**, **Ф. Шкірманкоў**, **А. Фурс**, **М. Сафро**, **Н. Барт-Юрэвіч**, **Валер Палсцюк** і шмат іншых.

Пра дзейнасць Таварыства сведчыць цікавасць да яго ўладных структур. Міністэрства юстыцыі не спадабалася ініцыятыва Лідскай гарадской рады ТБМ, якая 15 верасня ў в. Беліца Лідскага раёна паставіла мемарыяльны крыж у памяць нашай шляхты, што загінула ў 1659 г. у барацьбе з 30-тысячным маскоўскім войскам. За гэта і за рэкламны лісток у метро "Размаўляем па-беларуску" мы атрымалі папярэджанне ад Міністэрства юстыцыі і вырашылі гэтае папярэджанне аспрэчыць у Вярхоўным Судзе, які адбудзецца 27 студзеня а 10-й гадзіне. 21 студзеня гэтага года нам вынеслі чарговае папярэджанне, пра якое гаворка пойдзе пазней.

Хочацца верыць, што і 2003 год будзе спрыяльным і плённым у дзейнасці Таварыства. Гэта амаль цалкам залежыць ад актыўнасці нашых рэгіянальных структур, нашых сяброў. А такіх, дзякаваць Богу, у нас шмат. Назаву некалькі імёнаў: Людміла Дзіцэвіч, Сяргей Кручкоў, Алена Анісім, Іосіф Навумчык, Міхась Булавацкі, Алесь Місьцюкевіч, Анатоль Бароўскі, Валянціна Гракун, Вольга Іпатава, Віктар Сырыца, Вольга Кузьміч, Алена Таболіч, Алесь Чэчат, Мікола Лавіцкі, Дар'я Ліс і іншыя.

Мой справаздачны даклад, безумоўна, далёка не поўны. І я думаю, што ў спрэчках яго дапоўняць старшыні камісіяў і бацькоўская камітэта.

